КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№6(122)

15 сакавіка 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ПРАКУРАТУРА ПРЫЗНАЛА, ШТО АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ КАМІСІЯ КЛІМАВІЦКАГА РАЙВЫКАНКАМА СТВОРАНА З ПАРУШЭННЕМ ЗАКАНАДАЎСТВА

***Жыхарка вёскі Дамамерычы Клімавіцкага раёна Алена Марчанка атрымала адказ з пракуратуры Клімавіцкага раёна на сваю скаргу на незаконныя дзеянні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага раёна. У сувязі з гэтым на сайце spring96.org з'явілася наступная інфармацыя.***



"У адказе за подпісам пракурора Клімавіцкага раёна А. Землякова, у прыватнасці, гаворыцца пра тое, што адміністрацыйная камісіі Клімавіцкага райвыканкама створаная рашэннем райвыканкама ад 25.02.2002 г. №2-18, персанальны склад камісіі зацверджаны ў колькасці 9 чалавек у адпаведнасці з зацверджаным пастановай Саўмінам Прыкладным палажэннем аб адміністрацыйнай камісіі.

"08.01.2014 пры разглядзе справы аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адносінах Вас у пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі ўдзельнічала 6 з 7 членаў яе персанальнага склада, зацверджана 02.05.2013 рашэннем Клімавіцкага райвыканкама №11-19. Дадзенае рашэнне не адпавядае патрабаванням п.2 ч.8 Прыкладнага палажэння аб складзе адміністрацыйнай камісіі ў частцы мінімальнай колькасці складу камісіі", — піша пракурор Клімавіцкага раёна.

Таксама А. Землякоў паведамляе, што "пракурорам раёна адпаведная інфармацыя аб дапушчаных парушэннях заканадаўства накіраваная ў Клімавіцкі райвыканкам у мэтах недапушчэння такіх парушэнняў у далейшым".

Магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель указвае, што, нягледзячы на яўныя парушэнні, пракуратура адмовілася прымаць меры пракурорскага рэагавання, спасылаючыся на тое, што рашэннем суда Клімавіцкага раёна Пастанова адміністрацыйнай камісіі ў адносінах Алены Марчанка адмененая, справа накіраваная на новы разгляд, рашэннем Клімавіцкага райвыканкама ад 07.02.2014 №4-2 зацверджаны новы склад адміністрацыйнай камісіі ў колькасці дзевяць чалавек і ўхілены маючыяся парушэнні заканадаўства.

"Фактычна пракуратура Клімавіцкага раёна ўхіляецца ад мер пракурорскага рэагавання, знаходзячы для сябе нейкія незразумелыя апраўданні, — кажа Барыс Бухель. — Пракурор Клімавіцкага раёна павінен неадкладна прыняць меры пракурорскага рэагавання, бо фактычна з 02.05.2013 адміністрацыйная камісія Клімавіцкага райвыканакама, згодна райвыканкамаўскага рашэння, працавала ў складзе 7 членаў, што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Гэта значыць, што ўсе рашэнні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама за перыяд з 02.05.2013 па 07.02 2014 павінны быць адменены, бо прымаліся незаконна. Каму, як не пракурору, патрэбна пра гэта ведаць і патрэбна рэагаваць на парушэнні заканадаўства?

Таксама пракуратура павінна праверыць, які быў склад адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама ў папярэдні перыяд, бо існуе вялікая верагоднасць, што і раней яна працавала з парушэннем дзеючага заканадаўства".

Нагадаем, што процістаянне спадарыні Марчанкі з мясцовымі ўладамі пачалося пасля таго, як яна выступіла супраць знішчэння свіней у сувязі з небяспекай распаўсюджання афрыканскай чумы.

Пастановай па справе аб адміністрацыйным правапарушэнні ад 08.01.2014 года адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама спадарыня Марчэнка была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці па ч.1 арт.15.38 КаАП у выглядзе папярэджання за парушэнне ветэрынарных і ветэрынарна-санітарных правіл.

Алена Марчанка не пагадзілася з вынесенай пастановай і падала скаргу ў суд Клімавіцкага раёна. Таксама спадарыня Марчанка падала скаргу на дзеянні службовых асоб адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама на імя пракурора Клімавіцкага раёна. У скарзе яна звярнулася з просьбай правесці праверку дзейнасці адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама ў сувязі з тым, што пры разглядзе яе адміністрацыйнай справы былі дапушчаны парушэнні заканадаўства.

6 лютага суд Клімавіцкага раёна адмяніў пастанову адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама і пастанавіў адправіць справу жыхаркі вёскі Домамерычы Алены Марчанкі на новы разгляд".

# ГУБЕРНАТАР ГРОДЗЕНШЧЫНЫ АДМАЎЛЯЕЦЦА ЗВАЛЬНЯЦЦА З ПАРЛАМЕНТА

***Аляксандр Зазуля і Уладзімір Краўцоў, прызначаныя кіраўнікамі ў Кобрынскі райвыканкам і Гродзенскі аблвыканкам адпаведна, насуперак закону не склалі свае дэпутацкія паўнамоцтвы. Яны працягваюць працаваць і ў выканаўчай, і ў заканадаўчай уладзе. Пры гэтым абодва сцвярджаюць, што ў парламенце ім заробак не налічваюць, паведамляе сваім чытачам газета “Наша ніва”.***

22 кастрычніка 2013 года Аляксандр Зазуля, які на той момант у парламенце з'яўляўся старшынём Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце, быў прызначаны кіраўніком Кобрынскага райвыканкама. Зрэшты, на выбарах у 2012 ён і балатаваўся па гэтай акрузе.

14 лістапада 2013 з парламента ў выканаўчую ўладу адклікалі яшчэ аднаго дэпутата — старшыню Пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы Уладзіміра Краўцова. Ён быў прызначаны старшынём Гродзенскага аблвыканкама. На парламенцкіх выбарах балатаваўся па Крычаўскай акрузе (Клімавіцкі, Крычаўскі і Хоцімскі раёны).

### ЦІ МАЮЦЬ ПРАВА ДЭПУТАТЫ СУМЯШЧАЦЬ ПРАЦУ Ў ПАРЛАМЕНЦЕ З ПРАФЕСІЙНАЙ ДЗЕЙНАСЦЮ Ў ІНШЫХ ОРГАНАХ?

Законам «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь» рэгламентавана, што дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, не мае права займацца ў працоўны час іншай аплатнай работай (дзейнасцю), выключэнне — выкладчыцкая, навуковая, культурная, творчая дзейнасць, медыцынская практыка.

19 снежня 2013 года на паседжанні Палаты прадстаўнікоў дэпутатаў Зазулю і Краўцова вызвалілі ад пасад старшыняў камісіяў, але яны паранейшаму з’яўляюцца членамі камісій, то бок шэраговымі дэпутатамі. Гэта пацвярджвае цяперашні старшыня Пастаяннай камісіі па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце Генадзь Грыцкевіч.

Варта заўважыць, што праца ў парламенце належыць да заканадаўчай галіны ўлады, у выканкамах — да выканаўчай. Незразумела, як дэпутатам удаецца сумяшчаць гэтыя віды дзейнасці з пункту гледжання размежавання галінаў улады.

Калі жыхар Кобрына захоча папрасіць дапамогі ў свайго дэпутата ў сувязі з дзейнасцю (бяздзейнасцю) мясцовай улады, чым выклікана парушэнне ягоных правоў, па сутнасці, ён павінен звярнуцца да аднаго і таго ж чалавека - старшыні райвыканкама і дэпутата ў адной асобе Аляксандра Зазулі.

Да таго ж, незразумела, як дэпутаты Краўцоў і Зазуля фізічна могуць сумяшчаць такую працу — дэпутаты павінны ў Мінску прыстунічаць на паседжаннях камісіі, удзельнічаць у распрацоўцы і аналізе заканадаўства, сустракацца са сваімі выбаршчыкамі ў Крычаве і Кобрыне, выконваць абавязкі кіраўніка раёна і вобласці — у Гродне і Кобрыне.

Выбаршчыкі па Крычаўскай акрузе неаднаразова скардзіліся, што Уладзімір Краўцоў не выконвае свае абавязкі як дэпутат — не прыязджае на тэрыторыю сваёй выбарчай акругі і не сустракаецца з выбаршчыкамі, пакідае без рэагавання іх запыты і скаргі.

### «ДАВЫБАРАЎ» НЕ БУДЗЕ

Пасля прызначэння Зазулі кіраўніком райвыканкама сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік тлумачыў, што ў такім выпадку па выбарчай акрузе ў Кобрыне павінны прайсці «давыбары». Чакалася, што іх сумясцяць з бліжэйшымі выбарамі ў мясцовыя Саветы дэпутатаў. Але ўжо дакладна вядома, што ні ў Кобрыне, ні ў Крычаве давыбары праводзіць не будуць.

У адказе за подпісам старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай адзначаецца, што згодна з ч.1 арт. 88 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь у адпаведнай выбарчай акрузе праводзяцца новыя выбары ў выпадку датэрміновага спынення паўнамоцтваў дэпутата Палаты прадстаўнікоў. Паўнамоцтвы дэпутатаў Зазулі А.І. і Краўцова У.В. не спынены. Такім чынам, у Цэнтральнай камісіі няма прававых падстаў для назначэння выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў замест выбыўшых у гэтых выбарчых акругах.

### ДЭПУТАТЫ ПРАЦУЮЦЬ У ПАРЛАМЕНЦЕ ЗАДАРМА?

Абодва дэпутаты сцвярджаюць, што не атрымліваюць заробак за працу ў парламенце.

«Закон «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь» прама ўказвае, што дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, не мае права займацца іншыя дзяржаўныя пасады. Дэпутаты палаты прадстаўнікоў апрыёры працуюць на прафесійнай аснове.




Законам адмыслова прадугледжана датэрміновае спыненне дэпутацкіх паўнамоцтваў, калі дэпутат новага склікання на працягу трох месяцаў не пагаджаецца перайсці на прафесійную працу ў Палату прадстаўнікоў», — пракаментаваў праваабаронца Валянцін Стэфановіч.

Аднак ні дэпутаты, ні кіраўніцтва парламенту парушэння закону не бачаць.

# САКРЭТ І ТАЯМНІЦА ГЭТЫХ ВЫБАРАЎ

***Выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў прыцягваюць грамадскую ўвагу па шэрагу прычын. Адна з іх — гэта магчымасць даведацца пра заробкі людзей, якія выказваюць намер стаць дэпутатамі. А ў гэтай якасці яны абавязаны прадставіць дэкларацыі аб даходах. Звычайна, дэпутатамі ў нас становяцца кіраўнікі рознага ўзроўню. Такім чынам, выбары даюць магчымасць параўнаць прыбыткі начальнікаў і чыноўнікаў з заробкамі ўсіх астатніх грамадзян.***




На мінулых выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў дэкларацыі аб даходах друкаваліся ў раённых і абласных газетах па ўсёй краіне. Шмат хто памятае, які розгалас пачаўся пасля гэтага. Высветлілася, што ў нашай народнай дзяржаве народ атрымлівае зусім невялікую частку ад дзяржаўных дабротаў.

Гэтым разам у асобных рэгіёнах вырашылі не рызыкаваць, бо за некалькі гадоў розніца ў заробках толькі павялічылася. Пэўна, таму ў некаторых раёнах кандыдаты ў дэпутаты пажадалі, каб дэкларацыі аб іх прыбытках і маёмасці не змяшчаліся ў мясцовых СМІ. Было вырашана паведамляць такую інфармацыю на выбарчых плакатах. У выніку атрымалася, што калі раней аб заробках кандыдатаў маглі даведацца ўсе жыхары раёна, то зараз — толькі выбаршчыкі канкрэтнай выбарчай акругі.

У Клімавічах яшчэ ў лютым надрукавалі спісы кандыдатаў у дэпутаты Клімавіцкага раённага Савета депутатаў, але інфармацыя аб іх заробках дасюль не з’явілася ў раёнцы. А да пачатку выбараў засталося зусім няшмат, так што, хутчэй за ўсё, клімавіцкія жыхары так і не дазнаюцца з “Роднай нівы”, колькі грошай атрымліваюць раённыя начальнікі і чыноўнікі. Стаць дэпутатамі жадаюць шмат вядомых на Клімаўшчыне людзей: Святлана Гронзберг - дырэктар ДУКП “Жылкам”, Мікалай Бялко - генеральны дырэктар ААТ “Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод”, Нікіфар Мінчанка - галоўны рэдактар раённай газеты “Родная ніва”, Кацярына Музычэнка - намеснік старшыні Клімавіцкага райвыканкама, Уладзімір Азаранка - дырэктар ДЛГУ “Клімавіцкі лясгас”, Наталля Асмалоўская - упраўляючы справамі Клімавіцкага райвыканкама, Мікалай Далгун - старшыня Клімавіцкага раённага Савета дэпутатаў.

Каб мець хоць нейкія ўяўленні пра памеры даходаў, што атрымліваюцць сёння нашы сучасныя кіраўнікі, трэба звярнуцца да іншых крыніц. Напрыклад, незалежная газета «Народная воля» надрукавала артыкул Ігара Марозава “Начальнікі-багацеі”. У ім былі прааналізаваны звесткі аб даходах кандыдатаў, што балатуюцца ў дэпутаты ў Салігорскім раёне. Напрыклад, начальнік камунальнай аўтабазы мае гадавы даход больш за 343 мільёны рублёў, ці ў сярэднім 28,5 мільёна рублёў на месяц. Дырэктар торфабрыкетнага завода — 313 мільёнаў 957 тысяч 835 рублёў (больш за 26 мільёнаў у месяц). Намеснік дырэктара па ідэалагічнай працы прадпрыемства “ЖКГ “Комплекс” працуе з даходам на ўзроўні амаль тысяча долараў у месяц — 105 мільёнаў 475 тысяч 322 рублі за год. Гадавы даход старшыні раённага Савета дэпутатаў склаў амаль 153 мільёны рублёў (12,75 мільёна ў месяц, ці ў сярэднім амаль паўтары тысячы долараў).

Заробкі мясцовай кіраўнічай эліты, мякка кажучы, уражваюць. Большасць звычайных выбаршчыкаў пра такія грошы нават не марыць. Ці не ў гэтым прычына, чаму з даходаў начальства ў нас робяць вялікі сакрэт і таямніцу?

# ЧЛЕНЫ ИЗБИРКОМОВ ПОЛУЧАТ ОКОЛО 200 ТЫСЯЧ РУБЛЕЙ ЗА РАБОТУ В ДЕНЬ ВЫБОРОВ 23 МАРТА

***Члены избирательных комиссий получат около 200 тыс. рублей за работу в день выборов в местные Советы депутатов Беларуси 23 марта, сообщила председатель Центральной комиссии Беларуси по выборам и проведению республиканских референдумов Лидия Ермошина во время онлайн-конференции на сайте БЕЛТА.***

«75% расходов на проведение выборов, если не более, составляет заработная плата членов участковых избирательных комиссий, причём она очень маленькая. Я могу сказать, что без налогов эта сумма будет составлять около 200 тыс. рублей. Это очень небольшие деньги за как минимум 14 часов работы, потому что 12 часов работает избирательный участок и еще два-три часа длится подсчет голосов», — сообщила во время онлайн-конференции председатель комиссии.

Лидия Ермошина пояснила, что эти выплаты не являются заработной платой, потому что избирательные органы — это временные общественные формирования, не обладающие правами юридического лица и не принимающие никого на работу, за исключением отдельных гражданско-правовых договоров, которые заключают комиссии, например, по написанию вывески, оформлению избирательного участка либо на транспортные услуги. «Это небольшое вознаграждение, которое получат члены избирательных комиссий в основном за день выборов», — подчеркнула она.

*** по данным news.tut.by**

# ВЛАДИМИР ЛЕОНЕНКО ЗАЩИЩАЕТ ПОТРЕБИТЕЛЕЙ

## *А теперь вынужден защищаться сам от местных чиновников*

Елена ПОЛЯКОВА

***Белорусы всё чаще жалуются на некачественные товары. За прошлый год только в Минске, как сообщила на днях пресс-служба Мингорисполкома, более 16 тысяч граждан обратились в организации по защите прав потребителей. После проверки обращений столичным субъектам хозяйствования было вынесено 142 предписания, составлено 216 протоколов об административных правонарушениях.***

***Устранение нарушений и наказание нарушителей произошло благодаря помощи таких общественных объединений, как «Белорусское общество защиты потребителей», «Минское общество потребителей», «Защита потребителя» и др. К сожалению, в провинции подобная общественная деятельность нередко вызывает противодействие местных властей.***



Можно уверенно предположить, что любой человек легко назовёт случай, когда он купил или приобрёл некачественный товар. Наверное, каждый из нас после этого думал, что ему делать — жаловаться продавцу, обращаться к производителю товара, сразу идти в суд или вначале сходить в юридическую консультацию…

Общественные объединения потребителей как раз и созданы для оказания помощи в таких случаях. В связи с этим отметим, что с 2006 года у нас в городе существует Климовичское районное общество защиты прав потребителей. Первоначально председателем общества являлась Наталья Данеко, работавшая в райисполкоме. Интересно, что в 2010 году на вопрос: «Уменьшилось или увеличилось в нашем районе количество обращений по вопросам купли-продажи товаров, оказания услуг?», она сообщила, что «Число таких нарушений в последние годы значительно сократилось» («Родная Ніва» - 13.03.2010). Уже из её ответа видно, что обращались к ней не так уж часто.

Понятно, что ситуация в районе была далеко не идеальной. И когда Наталья Данеко оставила пост руководителя общества, на её место решили найти более энергичного человека. В 2011 году председателем Климовичской организации Белорусского общества защиты потребителей (БОЗП) избрали предпринимателя Владимира Леоненко. О том, что он не собирается работать по старинке, стало ясно практически сразу.

Было переизбрано правление и ревизионная комиссия организации. Климовичских жителей стали регулярно информировать о том, где и как они могут получить необходимые консультации по вопросам защиты своих потребительских прав.

Более того, в следующем 2012 году Владимир Леоненко специально прошёл аттестацию в Министерстве торговли. Он сдал экзамен, подтвердивший, что его знания соответствуют требованиям к должности руководителя данной организации. Это, кстати, непременное условие, обязательное для всех. А учитывая, что общественная деятельность не оплачивается, не все считают нужным проходить аттестацию. Поэтому в ряде районов до сих пор имеются организации, у которых отсутствуют председатели.

За прошедшее время Владимир Леоненко провёл значительную работу, проконсультировал сотни людей, многим из них помог вернуть деньги за некачественные товары. К примеру, с начала этого года потребителям было возвращено 5 млн. рублей. И вдруг в начале марта в новостях БелаПАН прошла информация, что председатель Климовичской организации БОЗП Леоненко обвиняет районные власти во вмешательстве в дела организации с целью смены её руководства:

«Раньше общество возглавляли должностные лица из райисполкома. Когда пришёл я, прошёл соответствующую аттестацию и начал работать, то скоро понял, что данная работа им просто не нужна. Мы проверяем магазины с санстанцией, вскрываем недостатки, нарушения прав потребителей. Было даже рекомендовано не посещать те или иные магазины вообще», — заявил БелаПАН Леоненко. По его словам, «я надеялся, что райисполком будет помогать отстаивать права потребителей, а получается наоборот. Аттестованного руководителя пытаются отстранить, ввести в общество своих каких-то людей».

Когда журналист БелаПАН обратился за комментарием к заместителю председателя Климовичского райисполкома Ломанову, то услышал следующее объяснение. По словам Анатолия Ломанова, Леоненко перекладывает работу по защите прав потребителей на райисполком. «Он отправляет обратившихся к нему людей в райисполком. Общество по защите прав потребителей только числится на бумаге», — сказал чиновник, считающий, что «ту работу,

которую проводит исполком, он приписывает себе».

«Чтобы оживить организацию, я способствовал тому, чтобы добавить в неё новых членов», — подтвердил Анатолий Ломанов. В свою очередь, Владимир Леоненко считает, что эти шаги направлены на отстранение его от должности. Опираясь на новых членов, райисполком хочет поменять руководство организации. В накладе же останутся простые граждане.

Заметно, что говоря про «ту работу, которую проводит исполком», Анатолий Ломанов обошёлся без какой-либо конкретики. К тому же совсем не верится, что он не знает о результатах деятельности Климовичской организации БОЗП. Достаточно того, что в районной газете периодически печатались материалы на эту тему.

Ещё одним серьёзным доказательством служит документ, подготовленный Владимиром Леоненко для Анатолия Ломанова по его же просьбе. Процитируем один отрывок:

«Работа районной организацией «БОЗП» велась постоянно. Был организован приём граждан в здании газеты «Родная ніва». В это же время по телефону 5-28-07 проводились «прямые линии».

С декабря 2011 года на официальном сайте Климовичского районного исполнительного комитета в разделе «Экономика» открыта рубрика «Защита прав потребителей». Также была предоставлена информация о месте и времени приёма граждан и контактные телефоны.

В районной газете «Родная ніва» по инициативе Климовичской районной организации «БОЗП» публиковались отдельные материалы по проблемам защиты прав потребителей. Также на данную тематику проходили передачи по районному телевизионному каналу «МИР-ТВ»

С декабря 2011 г. по декабрь 2013 г. поступило более 200 обращений, которые были рассмотрены на личном приёме граждан, а также на заседании правления. На значительную часть вопросов давались разъяснения в устной форме, по телефону. По всем обращениям, связанным с защитой законных прав и интересов потребителей, оказывалась правовая помощь.

Также помощь оказывалась в бесплатном составлении претензий, участии в судебных разбирательствах. Потребителям оказана помощь в возврате некачественного товара, работ, услуг на сумму более 100 млн. бел. рублей.

При обращениях потребителей председателем общества Леоненко В.Н. неоднократно осуществлялся выезд с ними в торговые точки города, чтобы урегулировать вопросы на месте. Не раз обращались за содействием в санэпидемстанцию; налоговую инспекцию; отдел по борьбе с экономическими преступлениями Климовичского РОВД.

Все переданные райисполкомом обращения граждан по вопросам защиты прав потребителей были рассмотрены.

Неоднократно от потребителей поступали благодарности, которые были напечатаны в районной газете. Также записи с выражением благодарности есть в книге замечаний и предложений Климовичской районной организации ОО «БОЗП»».

***P.S. Добавлять что-либо к сказанному излишне. Перечисленные факты убедительно говорят сами за себя. Объективную оценку всей этой истории пусть дадут наши читатели. Попутно хотим напомнить, что 15 марта в стране и в мире отмечается Всемирный день защиты прав потребителя.***

# В БЕЛАРУСИ РАЗРАБАТЫВАЮТСЯ НОВЫЕ НОРМЫ ЗАЩИТЫ ПРАВ ПОТРЕБИТЕЛЕЙ

***На пресс-конференции 11 марта в Минске представитель Министерства торговли Республики Беларусь Ирина Барышникова сделала ряд заявлений. Её выступление было посвящено готовящимся правовым новациям в сфере защиты прав белорусских потребителей.***

В текущем году будет разработан ряд документов в области защиты прав потребителей. Будет сделана ревизия всех документов, устанавливающих правила торговли — комиссионной, по образцам, некоторыми видами товаров, сообщила БелаПАН начальник управления защиты прав потребителей и контроля за рекламой Министерства торговли Беларуси Ирина Барышникова.

Одновременно ведётся работа по установлению правил оказания туристических услуг. Ирина Барышникова напомнила о проблемах, возникших у туристов в прошлом году при покупке туров в Египет:

«С Минспорта и туризма мы рекомендовали расторгать договоры на предоставления туруслуг на основании невозможности обеспечения полной безопасности на территории пребывания», — пояснила Барышникова.

Намечено установление правил оказания услуг по трудоустройству граждан.

Также планируется урегулировать вопросы защиты прав потребителей при получении товаров почтой. В частности, это касается возможности осмотра почтовой посылки на качество, количество и комплектность товара.

На пресс-конференции Ирина Барышникова заявила, что в Беларуси «потребительского экстремизма» нет. Она объяснила свою позицию:

«Появились информированные потребители, которые, используя незнание прав потребителей субъектами хозяйствования, отстаивают свои права. И их почему-то называют экстремистами», — отметила представитель Минторга. Об этом пишет БелаПАН.

«Просто надо привыкнуть к тому, что есть законодательство в сфере защиты прав потребителей, и его необходимо исполнять. Субъект хозяйствования должен просто знать данные нормативные акты», — считает Барышникова.

Она привела пример, когда крупная сеть по продаже мобильных телефонов требовала от покупателя самому проверять качество товаров и оплатить экспертизу, хотя законодательство требует это делать продавцу. «Не надо трактовать закон вольно, и не будет «экстремизма», — подчеркнула Барышникова.




## СПРАВКА:

***Потребительский экстремизм — поведение потребителей товаров и услуг, имеющее целью получить определенную выгоду и доход, манипулируя законодательством о правах потребителей в корыстных целях.***

**** по данным портала naviny.by***

# КАБ НЕ ПАВЫШАЦЬ КОШТЫ НА МАЛАКО, ЯГО ПАЧАЛІ РАЗЛІВАЦЬ У МЕНШУЮ ТАРУ

**Тамара САВІЧ, Еўрарадыё**

***Замест літра цяпер у бутэлькі наліваюць 900 або 930 мілілітраў. На заводах тлумачаць, што для пакупнікоў гэта "не так заўважна псіхалагічна".***

У краме заўважаю дзіўную рэч: фасоўка малака чамусьці розная. То 900 мілілітраў, то 950, то 930. Зрэдку малако наліваюць у літровую тару. Напрыклад, 70 мілілітраў — гэта некалькі порцый ранішняй кавы з малаком, каму як падабаецца, ці нават паўнавартасны амлет.

"Даўно ўжо не фасуецца малако ў літры, зрэдку так робяць малаказаводы", — прызнаецца прадаўшчыца, што працірае паддон з-пад малака ў краме. Сама жанчына мяркуе, што так маскіруюць рост коштаў на малочную прадукцыю: з 1 сакавіка яна падаражэла на 5%!

Вось малако "адборнае" Барысаўскага малаказавода "Здравушка-мілк". Пытаюся на прадпрыемстве, чаму прадукцыя выпускаецца ў бутэльках па 930 мілілітраў, а не ў літровых. З прыёмнай накіроўваюць на гарачую лінію прадпрыемства. Там губляюцца і патлумачыць таксама не могуць.

"Такія былі даследаванні. Мы высветлілі, што і іншыя вытворцы льюць не літр, а, да прыкладу, 930 мілілітраў. Таму і мы першапачаткова вырашылі браць такі аб'ём".

Наліваю гэта малако ў мерную шклянку, каб вызначыць, колькі ж на самой справе наліваюць вытворцы. Бяру шклянку з аб'ёмам 930 мілілітраў, а атрымліваецца... 980 мілілітраў. А як жа "вызначаны аб'ем", "маркетынгавыя даследаванні"... Але добра, што малака больш!

Свае тлумачэнні і ў тэхнолагаў прадпрыемства "Данонбел" — яны льюць малако пад маркай "Прастаквашына". Але тут малако наліваюць па 900 мілілітраў, смятану — у 180-грамовыя пачкі.

"Пакупнікам зручней купляць прадукцыю ў 900 мілілітрах ці нават у 950. Таму мы робім такую ўпакоўку. Ёсць, канечне, малаказаводы, што "гуляюцца" з упакоўкай у залежнасці ад коштаў, але ў нас так даўно было. У нас так робіць апарат, што малако разлівае", — ківаюць на апарат.



Яшчэ адна версія ад магілёўскай "Бабушкінай крынкі": спачатку выпускалася ў аб'ёме літр, а зараз 900 мілілітраў. "Дзе малако?" — пытаюся на магілёўскім прадпрыемстве.

"Мы падумалі, што так будзе шчыра ў адносінах да нашых пакупнікоў. Кошты ж растуць, і для іх гэта будзе не так заўважна псіхалагічна. Алей таксама ж сталі ліць у 900 мілілітраў, а не літр! Але ж мы вылічваем кошт малака за 900 мілілітраў", — прызнаюцца на прадпрыемстве "Бабушкіна крынка".

Прадпрыемства мае рацыю, бо, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, кошт літра малака за апошнія тры гады вырас на 97%, а смятаны — на 86%!

# ЛУКАШЭНКА: РЭСПУБЛІКАНСКІХ «ДАЖЫНАК» БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ

**Зміцер ПАНКАВЕЦ, Наша ніва**



Такое рашэнне прыняў Аляксандр Лукашэнка на адмысловай нарадзе. Лукашэнка падкрэсліў, што «Дажынкі» «з'ўляюцца карыснымі». «Там, дзе прайшлі кірмашы, пасля гэтага заставаўся добры след для народа. У гэтым каштоўнасць гэтага фестывалю. Але будзем шчырыя, што ёсць і пэўныя недахопы ў гэтым працэсе ў той форме і ў тым выглядзе, у якім мы гэта праводзілі», — зазначыў Лукашэнка.

Тым не менш, кіраўнік Беларусі ўнёс прапанову, што цяпер найлепшых аграрыяў краіны будуць узнагароджваць у пачатку каляндарнага года ў Палацы незалежнасці, а не на рэспубліканскім фэсце-кірмашы ў верасні.

На базе аграгарадкоў будуць праводзіцца раённыя «Дажынкі». Таксама застануцца абласныя. А вось рэспубліканскіх болей не будзе.

У паведамленні агенцтва БЕЛТА нічога не сказана, ці адбудуцца яшчэ сёлета рэспубліканскія «Дажынкі», месцам правядзення якіх анансаваўся Гарадок.

Першыя рэспубліканскія «Дажынкі» прашлі ў 1996-м у Століне. Пасля гэтага месцам іх правядзення выбіралі яшчэ Шклоў, Масты, Маладзечна, Горкі ды іншыя гарады. Кожны раз да Дажынак райцэнтры атрымлівалі шматмільярдныя інвестыцыі ў інфраструктуру і сацкультбыт.

# ЗАМЕСТ ЧЫСТАЙ ВАДЫ — МЕТАДЫЧНЫЯ ДАПАМОЖНІКІ

***Дэпартамент па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Міністэрства надзвычайных сітуацыяў выдаткоўвае мільярды рублёў на метадычныя дапаможнікі ды сувеніры. Тым часам у жыхароў чарнобыльскіх рэгіёнаў адабралі льготы, бракуе грошай на гаспадарчыя патрэбы, чыстую ваду, добрую пашу для жывёлы.***

***Пра становішча ў забруджаных радыяцыяй раёнах распавядае Радыё Свабода.***




У Брагіне, які асабліва моцна пацярпеў ад Чарнобылю, людзі дагэтуль пакутуюць ад няякаснай вады. Станцыю абезжалезвання вады тут пабудавалі, а водаправодная сістэма засталася ранейшая.

Гаворыць жыхар Брагіна, працаўнік мясцовай камунальнай гаспадаркі спадар Уладзімер:

— «У нас дзве свідравіны, і вада з іх цячэ смярдзючая. Усе трубы па Брагіну гнілыя. Вада чорная ідзе, і то з перабоямі, бо ледзь не кожны дзень капаюць.

Увесь Брагін гнілы. Са станцыі падаецца чыстая вада — праз крэмній ачышчаецца і абезжалезніваецца. А далей пайшла брудная, бо трубы свой тэрмін адслужылі. Ад таго й брудная. Штодня прывозяць нават з райвыканкаму і паказваюць: вось бачыце, вада брудная, чарвякі плаваюць... А ім метадычкі патрэбныя».

Каб прабіць адну свідравіну, трэба мільярд рублёў, не кажучы пра замену трубаў састарэлага вадаводу. Як лічыць суразмоўца, не метадычкі патрэбныя людзям, а чыстая вада:

— «Трэба пусціць у Брагіне людзям чыстую ваду, а не буклецікі іхнія ды запісачкі. Каму яны патрэбныя, іхнія метадычкі? Людзям яны сто гадоў не патрэбныя».

Раней у райцэнтры ўзводзілася нямала так званага чарнобыльскага жытла. Сёлета, як паведамляюць у райвыканкаме, фінансаванне яго таксама істотна зменшылася:

— «Будаўніцтва чарнобыльскага жытла ў нас заўсёды вялося. Сёлета ж у нас толькі 6 двухпакаёвых і 1 трохпакаёвая кватэра фінансуюцца, а павінны ўсе 24 — цалкам дом. Няма фінансавання. Толькі долевы ўдзел магчымы — тыя, хто стаіць на ўліку, за ўласныя сродкі каб будавалі. Бралі крэдыты й будавалі».

Многія чарнобыльскія вёскі, маючы пад бокам магістральныя газаправоды, самі прыродным газам не карыстаюцца. Няма сродкаў, каб зрабіць адгалінаванне ў вёску.

Пенсіянер Анатоль з вёскі Гдзень, якую пасля Чарнобылю двойчы адсялялі, але так цалкам і не выселілі, апавядае пра мясцовыя праблемы:

— «Гадоў пяць-шэсць таму, калі я цікавіўся, казалі што будзем газіфікаваць вёску. Цяпер ужо Гдзень — неперспектыўная вёска. Меліярацыя нам патрэбная ў першую чаргу, бо падтапляе людскія ўчасткі, у склепах вада стаіць. Добра, што сёлета снегу не было, а так у астатнія гады — вада».

З падобнымі ды рознымі іншымі побытавымі пытаннямі людзі сутыкаюцца не толькі на Брагіншчыне, але і на іншых чарнобыльскіх тэрыторыях. Улады не ў стане іх вырашыць, бо няма фінансавання.

Былы старшыня камісіі па чарнобыльскіх пытаннях у Вярхоўным Савеце 13 склікання Віктар Хоміч дадае:

— «Трэба выконваць закон аб сацыяльнай абароне. Людзям трэба вярнуць ільготы, якія ў іх забралі. Бо яны жывуць на тэрыторыі, што пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. А фактараў катастрофы шмат, не толькі адзін радыяцыйны. Гэта і псіхалагічны, і эканамічны, і сацыяльны, і прававы — яны ж і сёння нікуды не зніклі. Мы не кампенсавалі людзям страты, якія яны панеслі і нясуць, жывучы на забруджаных тэрыторыях. І ў гэтым напрамку нічога не робіцца. Людзям патрэбны іншы сацыяльны статус. У іх павінна быць іншае харчаванне, адпачынак. Грошай на гэта няма — і там нічога з гэтага не робіцца».

Тым часам Дэпартамент па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на распрацоўку метадычных дапаможнікаў накіроўвае 4,4 мільярда рублёў, на дыстанцыйнае кансультаванне — 2 мільярды, на інтэрнэт-партал — 2 мільярды, на фонд інфармацыйных рэзерваў — 2,9 мільярда, а яшчэ дзясяткі мільёнаў — на сувеніры.

## 290 МІЛЬЁНАЎ НА КВЕТКІ

**Тамара САВІЧ, Еўрарадыё**



***Магілёўскі аблвыканкам выдаткаваў летась 290 мільёнаў на кветкі. Такую ж суму плануюць выдаткаваць на кветкі ад абласнога выканкама і сёлета.***

На сайце дзяржзакупак Магілёўскі аблвыканкам абвяшчае тэндэр на закупку кветкавых кампазіцый на суму 290 мільёнаў беларускіх рублёў.

“Гэта кветкі для нашых мерапрыемстваў, якія праходзяць у нас цягам усяго года. Гэта канкрэтна на ўвесь год — у нас многа мерапрыемстваў запланавана на гэты год. На 8 Сакавіка там невялікая доля кветак. Іншым разам мы кожны дзень бяром букеты, іншым разам — меней”, — паведамляе чыноўніца Магілёўскага аблвыканкама ў каментары Еўрарадыё.

Дарэчы, грошы на кветкі ад аблвыканкама аплачваюцца з мясцовага бюджэта.

# СУВОРОВЦЕВ И СОЛДАТ БУДУТ ЗАЧИСЛЯТЬ НА ВОЕННЫЕ СПЕЦИАЛЬНОСТИ БЕЗ ЭКЗАМЕНОВ

***Видимо, стране катастрофически не хватает не только строителей, врачей и прочих гражданских специалистов, но и кадровых военных, поскольку вскоре большинству абитуриентов, поступающих на военные специальности, не придётся сдавать вступительные экзамены.***

О готовящемся проекте сообщил 13 марта начальник управления военного образования Вооруженных Сил Геннадий Лепешко:

«В соответствии с нормами данного проекта больше возможностей для поступления в военные учебные заведения предлагается предоставить профессионально ориентированным гражданам, имеющим мотивацию к военной службе: выпускникам Минского суворовского военного училища, кадетских училищ, лицам, имеющим рекомендации воинских частей. В эту категорию попадают прапорщики, солдаты и сержанты, проходящие службу по контракту, военнослужащие срочной военной службы, прослужившие не меньше шести месяцев, а также граждане, уволенные со срочной военной службы в запас в год приёма».

В проект правил приёма в соответствии с предложениями Министерства обороны внесены нормы зачисления без вступительных испытаний при наличии в аттестате абитуриента отметок 7 и выше по всем предметам учебного плана выпускников суворовского училища и кадетских училищ. Также предлагается зачислять вне конкурса при наличии в аттестате отметок 6 и выше по предметам вступительных испытаний в пределах 30% от контрольных цифр приёма выпускников суворовского училища, кадетских училищ, военнослужащих или прошедших военную службу, имеющих рекомендации воинских частей, передает БелТА.

## У МАГІЛЁВЕ ВЫСЯЛЯЮЦЬ З ІНТЭРНАТА ЖАНЧЫНУ З ДВУМА НЕПАЎНАГАДОВЫМІ ДЗЕЦЬМІ

***Такое рашэнне 12 сакавіка прыняў суд Ленінскага раёна горада.***

Ірына Ільінская пражыла 14 гадоў у інтэрнаце будаўнічага трэста №12. У яе двухгадовая дачка і сямігадовы сын. Іх жанчына выхоўвае адна. На дадзены момант яна знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку. Першапачаткова Ірына мела хадайніцтва на бестэрміновае пражыванне ў інтэрнаце ад іншай арганізацыі, аднак адміністрацыя трэста настаяла на тым, каб яна перазаключыла дамову пражывання тэрмінам на 1 год. Жанчыну пераканалі ў тым, што ніякіх наступстваў ад гэтага не будзе.

У незалежным прафсаюзе Радыёэлектроннай прамысловасці кажуць, што высяленне маці-адзіночкі з інтэрната стала магчымае пасля прыняцця новай рэдакцыі Жыллёвага кодэкса, які здымае льготы на пражыванне нават гэтай катэгорыі грамадзян. Еўрарадыё паведамляе, што з дапамогай незалежнага прафсаюза жанчына будзе абскарджваць рашэнне раённага суда ў Магілёўскім абласным судзе.

# РОССИЙСКИЕ АРТИСТЫ СОСТАВИЛИ АЛЬТЕРНАТИВНЫЙ СПИСОК В ПОДДЕРЖКУ УКРАИНЫ

85 российских деятелей культуры и искусства поставили свои подписи под письмом в поддержку позиции президента Путина по Украине и Крыму.

Среди подписавших письмо актеры Алексей Баталов, Сергей Безруков, Михаил Боярский, Василий Лановой, певец Олег Газманов, кинорежиссеры Фёдор Бондарчук, Павел Лунгин, Станислав Говорухин и др.

Российские артисты, которые поддерживают Украину и выступают против действий Путина в Крыму поставили свои подписи в альтернативном списке.

Этот список выглядит так: Лия Ахеджакова, Олег Басилашвили, Армен Джигарханян, Эльдар Рязанов, Юрий Шевчук, Борис Гребенщиков, Сергей Юрский, Андрей Макаревич, Валентин Гафт, Андрей Мягков, Михаил Жванецкий, Сергей Гармаш, Марк Захаров, Елена Яковлева, Галина Волчек, Андрей Кончаловский, Владимир Гостюхин, Федор Добронравов, Леонид Броневой, Александра Яковлева, Александр Балуев, Юрий Стоянов, Станислав Садальский, Александр Розенбаум, Даниил Гранин, Марат Башаров, Сергей Маковецкий, Дмитрий Харатьян, Михаил Кокшенов, Еманнуил Виторган, Леонид Куравлев, Наталья Фатеева, Борис Акунин.

## ЦИТАТЫ СО СМЫСЛОМ О МУЖЧИНАХ

Холостой мужчина однозначно больше знает о женщинах, чем женатый мужчина. Иначе он бы тоже уже был женат.

**** Генри Луис Менкен***

Мужчина может быть счастлив с любой женщиной, кроме той, в которую он влюблен.

**** Оскар Уайльд***

Дом мужчины — его крепость, но только снаружи. Внутри это чаще всего детская комната.

**** Клэр Люс***

Настоящий мужчина — это мужчина, который точно помнит день рождения женщины и никогда не знает, сколько ей лет. Мужчина, который никогда не помнит дня рождения женщины, но точно знает, сколько ей лет — это её муж.

**** Фаина Раневская***

Мужчины, которые отзываются плохо о женщинах, обычно имеют в виду лишь одну.

**** Реми де Гурмон***

## ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 і 2013 год.

kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*